Ніва
БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (775) БЕЛАСТОК 3 СТУДЗЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.

# З ВЕРАЙ У СІЛЫ НАРОДА


Юзэф Цыранкевіч
Старшыня Савета Дзяржавы

23 снежня адбылося пленарнае пасяджэнне Сейма. Сейм увёў змены на найвышэйшых дзяржаўных пастах. Мар'ян Спыхальскі адрокся ад пасады Старшыні Савета Дзяржавы. На пасаду гэтую выбраны Юзэф Цыранкевіч. Старшынёй Савета Міністраў Сейм выбраў Пятра Ярашэвіча. У сувязі з выбраннем Станіслава Кацёлка сакратаром ЦК партыі, Сейм адклікаў яго з пасады Намесніка Старшыні Савета Міністраў. Намеснікамі Старшыні Савета Міністраў назначаны Францішак Каім і Ян Мітрэнга.

З прамовай ад імя пасольскіх клубаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі, Аб'яднанай сялянскай партыі і Дэмакратычнай партыі выступіў пасол Эдвард Герэк, І сакратар ЦК ПАРП. Выступіў таксама новы прэм'ер Пётр Ярашэвіч.

Сейм назначыў міністрамі: машынабудаўнічай прамысловасці — Тадэвуша Вжашчыка, цяжкой прамысловасці — Уладзіміра Лейчака. Датыхчасовага міністра машынабудаўнічай прамысловасці Януша Грынкевіча назначылі I намеснікам камітэта да спраў навукі і тэхнікі.

Сейм прыняў пастанову аб народнагаспадарчым плане і бюджэце на 1971 год, а таксама адобрыў выкананне гаспадарчага плана і бюджэту за мінулы год.

(Працяг на стар. 2)


Пётр Ярашэвіч
Старшыня Савета Міністраў

# БГКТ ХРОНІКА

■ 11-га снежня арганізаваўся гурток БГКТ у Вульцы Тэрахоўскай. Падпісала дэкларацыі БГКТ 14 асоб. У праўленне гуртка былі выбраны наступныя асобы: Міхась Леўчук — старшыня, Міхась Баранаў — сакратар, Валя Пясэцкая — скарбнік. Некаторыя члены адразу аплацілі складчыны за 1971 г. У арганізацыйным сходзе гуртка прынялі ўдзел сакратар гайнаўскага аддзела БГКТ Віктар Бура і член праўлення Васіль Дзун.

■ Наш паэт Алесь Барскі 12-га снежня правёў аўтарскую сустрэчу з актывам БГКТ Гайнаўкі. Адказваў ён таксама на шматлікія пытанні адносна сваёй творчасці.

■ 15-га снежня прэзідыум бельскага аддзела абмеркаваў: пакантрольны пратакол аддзела ўнутраных спраў павятовай рады нарадовай, арганізацыйныя справы, звязаныя з конкурсам на беларускую песню — 70 і арганізацыйныя справы некаторых гурткоў.

■ 17-га снежня камісія асветы прааналізавала сваю дзейнасць у 1971 годзе.

■ 19-га снежня камісія культуры ГП падсумавала сваю працу за 1970 год і прыняла план працы на 1971 год. Удзельнікі пасяджэння прааналізавалі мастацкі рэпертуар для школ, а таксама развіццё аматарскага руху ў школах.

■ 20-га снежня ў памяшканні Галоўнага праўлення выступіў хор БГКТ з Гарадка пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай і Сцяпана Копы. Перапоўненая зала вельмі цёпла прымала гарадоцкіх харыстаў, і многа песень прыходзілася ім спяваць па два разы. Канферанс'е быў Мікалай Матэйчук.

■ 21-га снежня пад кіраўніцтвам сакратара Янкі Зенюка адбылася нарада інструктараў ГП з усіх аддзелаў, на якой падсумавана была праца на працягу 1970 года.

■ Гурток БГКТ у Плянце на Гайнаўшчыне (старшыня Аляксандр Самойлік) прыняў у свае рады 8 новых членаў.

■ 20 снежня ў памяшканні ГП адбылася нарада карэспандэнтаў «Нівы». 12 асобам галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі ўручыў рэчавыя ўзнагароды.

# XV ГОД
## ПРАЦА КАРЫСНАЯ І ЭФЕКТЫЎНАЯ

15 год існавання і дзейнасці БГКТ у Польшчы і год новы прымушаюць нас задумацца, разважыць, сказаць сабе многа аб тым, што зрабілі і што зрабіць хочам; аб тым, што добрае было і што кепскае. Па шчырасці! Памылак паўтараць не хочам, не будзем!

Нашу юбілейную, навагоднюю, першую размову правялі мы з сакратаром Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Янкам Зенюком.

— Апраўдала сябе таварыства за 15 год?

— Таварыства пачынала працу без вопыту. Усе мінулыя гады шукала яно свайго месца ў жыцці. З году ў год дасканаліла працу. Можам сказаць цяпер, што Беларускае таварыства здабыло сабе ў краіне права грамадзянства. Арганізацыя разбудавалася, налічвае зараз 7 тысяч членаў. Арганізуе грамадска-культурны і асветна-выхаваўчы рух; актыўна ўключаецца ва ўсе агульнакраёвыя і ваяводскія працы; нашы члены — часта перадавы актыў свайго асяроддзя.

— Які грамадскі базіс таварыства?

— У апошні час у рады таварыства, можна сказаць, хлынула моладзь. Гэта з'ява вельмі нас цешыць. Таварыства адмалоджваецца.

— У мінулым бывалі погляды, што БГКТ — арганізацыя вясковая.

— Такія погляды неабгрунтаваныя. Наша дзейнасць у мінулым была ў асноўным накіравана на вёску. Гэта і далей асноўны наш базіс, але не выключны. Таварыству патрэбна інтэлігенцыя, людзі высока адукаваныя.

Дагэтуль бывала, што нашы гурткі ў гарадах былі мёртвымі. Але гэта толькі сведчыла, што ролю таварыства трактавалі завужана, не бачылі шырокай яго працы і інтэграцыйнай ролі нашай арганізацыі.

— Я адчуваю, што ідэя яднання дум і сіл трапіла на добры грунт сярод беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

— Наша таварыства прымае пад увагу нацыянальную спецыфіку тутэйшых беларусаў і выкарыстоўвае яе для мацнейшага з'яднання народных сіл, для актывізацыі, для выканання агульных заданняў краіны. Выкарыстоўваем пры гэтым прагрэсіўныя традыцыі супрацоўніцтва і дружбы. Такі ж напрамак у грамадска-ідэйнай і выхаваўчай дзейнасці будзем прадаўжаць. Будзем выхоўваць людзей, якія б ганарыліся сваёй краінай, яе развіццём. Член наш — гэта патрыёт народнай Польшчы, звязаны з рэгіянальнай беларускай традыцыяй і культурай.

— Праграма, а практыка — калі б шукаць адказу на гэтае пытанне.

— Хачу сказаць выразна, што Беларускае таварыства не выдумала сваёй праграмы. Наша праграма — гэта праграма партыі і народнай улады. Мы толькі ў розных формах у практычнай дзейнасці, улічваючы тутэйшую сваю спецыфіку, гэтую праграму выконваем. Формы нашай практычнай дзейнасці багаты. Першая з іх — гэта забеспячэнне цікавай матэрыяльнай культуры раёна, для гэтага служыць наш Этнаграфічны музей у Белавежы. Моцна лічым нафальклор, але маем пакуль тут вялікія недахопы і гэтую справу трэба будзе абавязкова рушыць з месца ў будучыні.

— А грамадска-культурны рух?

— Адзін з галоўных яго элементаў — гэта наш літаратурны рух, які пачаўся вакол «Нівы» і дзякуючы ёй. Пачалі гуртавацца людзі — пішучыя, адданыя справе. За 15 год БГКТ выдала 31 кніжную пазіцыю, у тым 15 календароў. Існуе вялікае запатрабаванне на літаратурную творчасць на беларускай мове. Але... Трэба сказаць тут гэтае «але». Творчасць беларускіх літаратараў у Польшчы замнога сядзіць у гісторыі, у іхнім дзяцінстве, замала ў нашых новых днях, замала паказвае жыццё цяпер. Трэба больш прадумана працаваць. Хоць бы ўзяць драмгурткі і вакальныя гру-

Працяг на стар. 4




ПЕРАД СНОМ

— Накрыйце мяне рунню! —
Просіць зямля.
— Накрыйце мяне зорным
небам! —
Просіць вада.
— Накрыйце мяне імглой! —
Просіць лес.
— Накрыйце мяне цішынёй! —
Просіць дарога,
А я перад сном:
— Накрыйце роднай песняй.

*Максім Танк*


ГЛАДКАЙ ЖЫЦЦЁВАЙ ДАРОГІ І ПРЫЕМНЫХ ВЕСТАК У НОВЫМ 1971 ГОДЗЕ ЖАДАЕ ЎСІМ СВАІМ ЧЫТАЧАМ «НІВА».

### ВЫНІКІ XXV СЕСІІ

XXV сесія Генеральнай Асамблеі ААН завяршыла работу. У другую чвэрць стагоддзя сваёй гісторыі ААН уступіла ва ўмовах яўнага ўмацавання ўплыву сіл міру.

Найбольш важным вынікам работы сесіі было прыняццё Генеральнай Асамблеяй Дэкларацыі аб умацаванні міжнароднай бяспекі, у якой знайшлі адлюстраванне асноўныя палажэнні, распрацаваныя і прапанаваныя Савецкім Саюзам і іншымі сацыялістычнымі краінамі.

Вялікае значэнне мае таксама прынятая Генеральнай Асамблеяй Дэкларацыя ў сувязі з дваццаць пятай гадавінай ААН, якая падводзіць вынікі чвэрцьвяковай дзейнасці арганізацыі і намячае галоўныя задачы на будучае. Яна пацвярджае вернасць дзяржаў — членаў ААН Статуту, іх рашучасць прымаць мэтанакіраваныя захады для выканання асноўнай задачы ААН — захавання міру і ўмацавання міжнароднай бяспекі.

Асамблея адобрыла праграму дзейнасці з мэтай поўнага ажыццяўлення Дэкларацыі аб прадстаўленні незалежнасці каланіяльным краінам і народам. Гэта праграма абʼяўляе каланіялізм злачынствам, пацвярджае права прыгнечаных народаў на барацьбу за сваё вызваленне, абавязвае дзяржавы — членаў ААН садзейнічаць прыняццю эфектыўных мер для поўнага ажыццяўлення Дэкларацыі. Толькі пяць краін аказалі супраціўленне прыняццю гэтай праграмы і прагаласавалі супраць — ЗША, Вялікабрытанія, Аўстралія, Новая Зеландыя і ПАР (Паўднёва-Афрыканская Рэсп.).

Важным вынікам зʼявілася адабрэнне праекта Дагавору аб забароне размяшчэння на дне мораў і акіянаў і ў іх нетрах ядзернай зброі масавага знішчэння. Асамблея пераадолела супраціўленне заходніх дзяржаў, якія спрабавалі ўхіліцца ад разгляду пытання аб забароне ўжывання хімічнай зброі. Яна прыняла рэзалюцыю, у якой указваецца на неабходнасць адначасова прымаць меры для забароны як бактэрыялагічнай, так і хімічнай зброі.

Асамблея прыняла рэзалюцыю, у якой ёсць такое важнае палажэнне, як непрызнанне тэрытарыяльных захопаў у выніку агрэсіі, і рэкамендавала Савету Бяспекі разгледзець пытанне аб мерах, якія забяспечылі б выкананне яго ўласнай рэзалюцыі аб вывадзе ізраільскіх войск з акупіраваных арабскіх тэрыторый.

### БЮДЖЭТ ААН

Генеральная Асамблея адобрыла бюджэт ААН на 1971 год у памеры 192 мільёнаў долараў. Гэта самая вялікая сума бюджэту за ўсю гісторыю існавання ААН.

### СЕСІЯ ААН 1972 Г. У ЖЭНЕВЕ?

Прадбачваецца, што сесія Генеральнай Асамблеі ААН у 1972 годзе адбудзецца ў Жэневе. Гэтая прапанова не новая. Не адзін раз дэлегаты, асабліва Трэцяга свету, звярталі ўвагу, што ў Нью-Йорку няма ўмоў для правядзення сесіі ААН з прычыны безупынных правакацый імперыялістычных і сіяністычных кругоў. (ак)

### ПЛЕНУМ ПІСЬМЕННІКАЎ

16 снежня адбыўся пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Была гэта грунтоўная, вялікая размова пра стан беларускай драматургіі і яе задачы, пра творчыя сувязі пісьменнікаў-драматургаў з тэатрамі, кіно і тэлебачаннем. Пра надзённыя справы беларускай драматургіі, пра творчую сувязь тэатраў, кіно і тэлебачання з пісьменнікамі гаварылі ў сваіх выступленнях кінарэжысёр І. Дабралюбаў, пісьменнікі П. Пестрак, П. Васілеўскі, А. Махнач, А. Слесарэнка.

### 60 ГАДОЎ ТВОРЧАСЦІ

Аскару Марыксу споўнілася 80 гадоў. З гэтай нагоды ў памяшканні Саюза мастакоў БССР наладжана была выстаўка яго твораў. Народны мастак рэспублікі сваімі карцінамі склаў справаздачу за 60 гадоў творчасці.

### ОПЕРА ПРА БАГДАНОВІЧА

Са шчырым усхваляваным пачуццём напісана і прысвечана паэту Багдановічу новая опера «Зорка Венера», прэмʼера якой адбылася ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР. Яе аўтары — кампазітар Юрый Семяняка і паэт Алесь Бачыла — паставілі сваёй мэтай раскрыць глыбокую духоўную сувязь Багдановіча з родным краем, са сваім народам, паказаць крыніцы, якія ўспаілі яго талент.

### АСФАЛЬТ НА ВЯСКОВЫХ ВУЛІЦАХ

Вёска Стары Свержань — адна з буйнейшых у Слуцкім раёне. Кожны год вырастаюць тут новыя жылыя дамы. Пабудаваны камбінат бытавога абслугоўвання, пошта, дом культуры, сталовая, некалькі магазінаў. Вуліцу ў вёсцы пакрылі асфальтам. Асфальтуюцца вуліцы і ў вёсцы Вішнявец, якая зʼяўляецца цэнтрам калгаса імя Мічурына. Асфальтная вуліца таксама ў вёсцы Залужжа, дзе калгас імя Ул. І. Леніна.

### ІНСТЫТУТУ 25 ГАДОЎ

Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут адзначае сваё 25-годдзе. За гэтыя гады ён падрыхтаваў 270 акцёраў тэатра і кіно, 300 мастакоў, 28 рэжысёраў.

Цяпер у інстытуце вучыцца звыш 700 студэнтаў. Па 22 напрамках вядзецца падрыхтоўка будучых спецыялістаў. Інстытут стаў буйнейшым цэнтрам па выхаванню кадраў творчых работнікаў для ўстаноў культуры рэспублікі.

### САЎГАСНЫ МУЗЕЙ

У саўгасе «Кахановічы» створан музей баявой і працоўнай славы. Прыгожы мураваны будынак маляўніча ўпісаўся ў саўгасны парк культуры і адпачынку.

У музеі шмат экспанатаў. Тут 93 партрэты былых воінаў і партызан, падрабязныя расказы пра іх ратныя подзвігі. Ёсць шмат матэрыялаў па гісторыі Кахановіч і саўгаса, аб росквіце эканомікі гаспадаркі, пра будаўніцтва, павышэнне дабрабыту працаўнікоў вёскі.

Наведваюць саўгасны музей не толькі мясцовыя жыхары, але і працаўнікі іншых гаспадарак Верхнядзвінскага і суседніх раёнаў.

## З ВЕРАЙ У СІЛЫ НАРОДА

*(Працяг са стар. 1)*

І сакратар ЦК партыі Эдвард Герэк у сваім выступленні падзякаваў паслам Марʼяну Спыхальскаму і Юзэфу Цыранкевічу за іх ахвярную, шматгадовую працу на сваіх пастах. Адзначыў ён, што змены гэтыя адбываюцца ў цяжкі момант жыцця нашай краіны. — Мы пераканаPы, — сказаў Э. Герэк, — што дзякуючы пастановам VII Пленума ЦК партыі наша Айчына пераможа палітычны крызіс, які пагражаў надзвычай небяспечнымі вынікамі. Польскі рабочы клас і ўсе свядомыя сілы нашага народа не дапусцяць да таго, каб Польшча была кім-кольвек сапхнута з дарогі сацыялізма, дарогі незалежнасці, грамадскай справядлівасці і прагрэсу.

Зараз у гарадах пабярэжжа і на ўсіх прамысловых прадпрыемствах лад і парадак, людзі працуюць, жыццё вярнулася да нормы. Перад урадам, перад усімі намі стаіць цяпер заданне адбудаваць і ўмацаваць неабходную сувязь, якая павінна спалучаць нас з рабочым класам і ўсімі людзьмі працы.

Далей Э. Герэк ахарактарызаваў асноўныя заданні, якія стаяць цяпер перад урадам. Першым з іх зʼяўляецца неабходнасць паляпшэння матэрыяльнай сітуацыі сямей шматдзетных і з найніжэйшымі заробкамі. На гэтую мэту дзяржава ў даны момант можа прызначыць не больш як 7 мільярдаў злотых. Сума гэтая не малая, хаця не зможа яна ў істотнай меры палепшыць матэрыяльную сітуацыю ўсіх працоўных. Сумы гэтай урад не будзе дзяліць самаўладна. Падзел адбудзецца пры кансультацыі з рабочым актывам, прадстаўнікамі прафсаюзаў і гаспадарчай адміністрацыі.

— Лічым таксама неабходным, — сказаў І сакратар ЦК ПАРП, — замарозіць прынамсі на 2 гады цэны ўсіх прадуктаў харчавання, за выключэннем тых, цэны якіх мяняюцца ў залежнасці ад сезону. Што датычыць прамысловых прадуктаў, дык павінны яны па меры ўзросту прадукцыі прадавацца па шторазь ніжэйшых цэнах.

Праблемы стварэння нацыянальнага прыбытку, як і яго падзелу не могуць вырашацца бюракратычным метадам. Патрабуюць яны творчых кансультацый з рабочым класам, з людзьмі навукі і тэхнікі, з прадстаўнікамі ўсіх слаёў насельніцтва. Дыскусія над асноўнымі праблемамі сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне спрыяць будзе ўмацаванню ўзаемнага даверу паміж урадам і грамадствам.

Гаворачы аб справах міжнароднай палітыкі, І сакратар ЦК партыі падкрэсліў велізарнае значэнне брацкага саюза і дружбы з Савецкім Саюзам, што зʼяўляецца гарантыяй нашай бяспекі.

— Хачу выказаць сваё глыбокае перакананне, — сказаў на заканчэнне Эдвард Герэк, — што пасля перажытых цяжкіх дзён, ёсць асновы, каб надыходзячыя святы і новы год павітаць з аптымізмам, з верай у сілы нашага народа, з надзеяй і верай у будучыню Айчыны.

Новы прэмʼер Пётр Ярашэвіч у сваім выступленні накрэсліў галоўныя напрамкі працы ўрада ў бліжэйшы перыяд. Урад будзе вымушаны перш за ўсё забяспечыць неабходныя фінансавыя і матэрыяльныя падставы для выканання найбольш пільных заданняў: узростy даходаў найменш зарабляючых грамадзян, лепшага забеспячэння рынку, у тым ліку некаторымі прадуктамі харчавання. Праект змен у нацыянальным гаспадарчым плане і бюджэце дзяржавы на 1971 год урад прадставіць Сейму на працягу 1 чвэрці 1971 года.

Адной з асноўных галін працы ўрада будзе справа жыллёвага будаўніцтва. Выкарыстаюцца ўсе рэальныя магчымасці з мэтай яго павышэння. Адчувальны прырост новых кватэр можна аднак будзе дасягнуць не раней, як у 1972 годзе. З большымі, чым дагэтуль намаганнямі ўрад будзе ўводзіць у прадукцыю дасягненні навукі і тэхнікі, сучасныя метады арганізацыі прадукцыі і працы. — Чакаем, — заявіў П. Ярашэвіч, — ад людзей навукі і тэхнікі, ад вучоных, дзеячоў і працаўнікоў асветнага і культурнага фронту — дапамогі ў вырашэнні асноўных заданняў гаспадаркі і культуры.

З не меншай увагай урад сачыць будзе за праблемамі сельскай гаспадаркі. Будзем рашуча працягваць і ўдасканальваць датыхчасовую сельскагаспадарчую палітыку. Найбольш пільным заданнем у гэтай галіне зʼяўляецца зараз павелічэнне прадукцыі жывёлагадоўлі і пастаўкі сельскагаспадарчых прадуктаў. Урад будзе імкнуцца да забеспячэння неабходных для гэтага эканамічных, арганізацыйных і тэхнічных умоў.

Вялікую ўвагу ўрад будзе прысвячаць таксама развіццю рамясла. Стварацца лепшыя ўмовы для яго развіцця, у першую чаргу ў тых галінах, у якіх патрэбы грамадства не забяспечаны яшчэ ў дастатковай меры. Урад надалей будзе шукаць больш дасканалых метадаў кіравання гаспадаркай, выкарыстоўваючы пры гэтым усё, што найлепшае ў вопыце іншых сацыялістычных краін.

У далейшай частцы свайго выступлення прамоўца ахарактарызаваў замежную палітыку нашага ўрада, падкрэсліваючы, што будзе ён працягваць палітыку, аснованую на прынцыпах мірнага суіснавання і супрацоўніцтва з усімі краінамі незалежна ад іх грамадскага ладу, асноўным аднак фундаментам нашай палітыкі ёсць і застанецца назаўсёды дружба і супрацоўніцтва з дзяржавамі сацыялістычнага лагеру, а перш за ўсё з Савецкім Саюзам. (п)




**Niedziela 3.I.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Pielęgnacja maciory”. 8.40 „Przypominamy, radzimy”. 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych. 10.00 „Złote wrota” — konkurs piosenek dla dzieci (Praha). 11.00 „Nasze lwy” — film dok. ang. 11.55 Dziennik. 12.10 „Pierwsza niedziela po wojnie” — rep. dok. sportowy. 12.30 Film fab. 14.00 „Przemiany”. 14.30 Dla dzieci: W. Goldfeld — „Niezapominajki”. 15.30 „Dziś Partita”. 16.00 „Dialogi historyczne”. 16.30 „Wielka gra”. 17.25 „Pani Miecia” — rep. o wybitnej aktorce Mieczysławie Ćwiklińskiej. 18.20 Estrada Literacka: „Suche listowie” — liryka rosyjska cz. I („Strofy poezji świa 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Perpetuum mobile pani Hanki”. 20.35 „Gwiazda szeryfa” — film fab. USA. 22.05 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 4.I.**

15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.30 „Echo stadionu”. 17.50 „Kino Filmów Animowanych”. 18.20 „Eureka”. 19.00 „Konflikt” — film pol. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: G. B. Shaw — „Profesja pani Warren”. 21.35 „O 8-ej za rzeką” — program rozrywkowy z Rostocka. 22.35 Dziennik.

**Wtorek 5.I.**

10.00 „Hipnotyzer” — film fab. ang. 11.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Przypomnienie podstawowych wiadomości o budowie i życiu roślin”. 14.25 Przerwa. 15.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.25 Program ekonomiczny — „Szlakiem Dobrej Roboty”. 19.00 „Droga wiodła nad Slaglillo” — rep. Tele-Aru. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Hipnotyzer” — film fab. ang. 21.25 „Kontakty”. 21.55 „Gdzie są dziewczęta” — japoński program rozrywkowy. 22.40 Dziennik.

**Środa 6.I.**

10.00 „Spotkanie” — film tv ang. („Saga rodu Forsytów”). 10.50 Przerwa. 12.30 „Wybieramy zawód”. 12.55 Konkurs Czterech Skoczni. Międzynarodowy Konkurs Skoków Narciarskich (Bischofschofen). 15.20 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender” — poławiacz ciekawostek morskich. 17.15 Magazyn ITP. 17.30 „Czas nowych poszukiwań”. 18.00 „Obrońcy Stalingradu” — film radz. 18.30 „Z Tondosem przez Kraków” („Kraków mało znany”). 19.00 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Spotkanie” — film tv ang. („Saga rodu Forsytów”). 20.55 „Światowid”. 21.25 „Od delty do delty” — IV program („Alfabet rozrywki”). 22.10. PKF

**Czwartek 7.I.**

8.15 Matematyka w szkole: „Geometria wykreślna” (zajęcia fakultatywne) cz. I. 8.55 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — B. Prus „Anielka”. 10.25 Przerwa. 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja wapnowania gleb” cz. I i II. 14.00 Przerwa. 15.20 i 22.25 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 17.45 „Zrób to sam”. 18.00 „Ze znakiem Q” — program ekonomiczny. 18.25 Recital Kaliny Jędrusik. 19.00 „Na tratwie przez Pamir” — film dok. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Kobra: Z Kubikowski — „Brydż”. 21.15 „Konfrontacje muzyczne czyli kochajmy skowronki” 21.55 „Lektury współczesne”. 22.05 Dziennik.

**Piątek 8.I.**

10.00 „Jej siedem wieczorów” — film fab. czechosł. 11.30 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie plastyczne — „Moje mieszkanie”. 12.25 Przerwa. 15.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora”. 17.35 „Nie tylko dla pań”. 17.55 Magazyn Medyczny. 18.25 „Gramy o telewizor” — teleturniej. 18.45 „Rozmowy o książkach”. 19.00 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Piękny i nieczuły” — nowela franc. 20.30 „Kraj”. 21.10 Teatr TV: A. Jirasek — „Latarnia”. 22.40 Dziennik.

**Sobota 9.I.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Układ krwionośny”. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Półwysep Skandynawski”. 11.25 „Lampart” — film fab. wł.-franc. 14.00 Przerwa. 15.15 Program dnia. 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Koncentrat „Prowit” w żywieniu trzody chlewnej” 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Oferty”. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: Program rozrywkowy. 17.10 Program filmowy. 18.10 „Spotkania z przyrodą”. 18.35 „Tele-Echo”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Program estradowy — „Lampa Alladyna”. 21.20 Dziennik. 21.40 Kino Interesujących Filmów: „Lampart” — film fab. wł.-franc.

## КУПЛЯЙЦЕ „БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР“ НА 1971 ГОД

Купіць яго можна ў ГП БГКТ, у нашай рэдакцыі і ў аддзелах БГКТ. Галоўнае праўленне можа таксама высылаць каляндар за залічэннем паштовым. Адрас ГП: ZARZĄD GŁÓWNY BIAŁORUSKIEGO TOWARZYSTWA SPOŁECZNO - KULTURALNEGO, BIAŁYSTOK, UL. WARSZAWSKA 11.

Чытачы з БССР, якія хацелі б атрымаць каляндар, павінны даслаць новыя (!) беларускія кніжныя выданні вартасцю ў 1 рубель.

**ЯН ЧЫКВІН — ЧЛЕН ZLP**

**У канцы мінулага года прыняты ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў аўтар паэтычных зборнікаў «Іду» і «Святая студня» (выдадзеных ГП БГКТ), «белавежац» Ян Чыквін. Сардэчна віншуем!**


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 145




*Ян Чыквін*

* * *

Што мне Ньютоны, што Галілеі
Ці пустата Тарычэллі...
Сам я выходжу на арбіту алеі
У камбінезоне вячэрнім.

Сам я кружуся па крузе фактаў,
Чакаючы з мора пагоды...
А шчасце зямное прыходзіць раптам,
І шчасце зямное раптам адходзіць.

Сам для сябе я мэтай і стартам,
Сам для сябе я пілот і ракета —
Шуршу па парку ў чаравіках упарта,
Цокаю штодзень па ясных паркетах.

Эй, бездань адвечна з Млечнай алеяй,
Нас аддзяляюць касмічны гады.
І хоць у калысцы не жыць нам заўжды,
Што мне Ньютоны, што Галілеі.

*Віктар Стахвюк*

* * *

Я мыю вокны
не для ідэі.
Не багацеем
мне мроіцца быць.
Мне надаела
худое цела
таню модай смяшыць.

Вочы схаваныя
ў шляпе фільцовай,
з плюшу штаны —
вецер у'е вакол ног.
Міргнула бровай
красунь каралева —
я адміргнуць ёй не змог.

Я вокны мыю,
Бо як жа можна
ўзяць з парожняй
бацькавай клуні!?
Каб за світку на плечах
душу не калечыў
пагардлівы смех прыгажуні.

* * *

*В. Стахвюк нарадзіўся 1 чэрвеня 1948 г. у вёсцы Трасцянка, Гайнаўскага павета. Сярэднюю адукацыю атрымаў у агульнаадукацыйным ліцэі з бел. мовай навучання ў Бельску. Цяпер ён студэнт трэцяга курса беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.*

*Алесь Барскі*

* * *

Расшыр сэрца
хай радасці больш у ім змесціцца
глянь на кветку расцвіўшую
колькі шыры ў кожным пялёстку
кожны з іх можа стацца палацам
для пчалы і для промня
для расы і для ветру
расшыр сэрца
для майго болю.

* * *

Ад цяпла Тваіх далоняў
расцвітаюць ружы і цюльпаны
даспяваюць каласы пшаніцы
і дзіця смяяцца пачынае
ад цяпла у нас сэрцы падабрэлі
заняліся полымем кахання
да цябе
і да людзей
і да прыроды
ходзім мы ў ружовых акулярах
і вакол бачым толькі шчасце.

* * *



* * *

У глыбіні тваіх вачэй зялёных
адбітак ёсць маёй трывогі
куды ў даль яны так гоняць
па невядомых мне дарогах
ці там ёсць нехта Табе блізкі
а мне чужы а мне варожы
я бачу незычлівасць бліскаў
у зрэнках Тваіх воч прыгожых
скажы ты мне што я мылюся
што злы дух мяне наведаў
да ног Тваіх я прытулюся
і стану вечным Тваім следам

*Надзея Артымовіч*

## ДУМКА

Думка як хваля
разбілася аб бераг
грозная стыхія
шалёнай вады
збурыла думку...
...І вось
мора супакойваецца
след думкі
хаця невыразны
астаўся.
На пясчаным беразе
думка
жывая...
Яна мае надзею
на пясчаным
няпэўным
беразе
жыць.



*Л. Танкевіч*

* * *

*Гады абтрэслі маю*
*душу з успамінаў*
*як яблыню*
*на сконе восені*
*перасыпалі —*
*жменяй гадоў*
*прасеялі —*
*праз сіта часу*
*як спелыя зярняты*
*пакідаючы тыя*
*што засталіся і не выпалі —*
*разам з жывою датаю.*



## ПАЭТ—ГРАМАДЗЯНІН

*Уладзіслаў Стшалецкі нарадзіўся 4 лістапада 1915 года ў Варшаўскім ваяводстве. У 1936 годзе скончыў настаўніцкую семінарыю, але да самай вайны не мог знайсці працы ў настаўніцкай прафесіі. У час акупацыі быў вывезены на прымусовую працу ў Германію.*

*Пасля вызвалення скончыў педагогіку ў Лодзінскім універсітэце і займаў адказныя пасады ў павятовых і ваяводскіх радах, або маладзёжных арганізацыях.*

*Пачынаючы ад 1949 года да сённяшняга дня Стшалецкі працуе сакратаром Ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы ў Лодзі. Вядомы ён як паслядоўны папулярызатар дасягненняў СССР у галіне культуры, літаратуры, гаспадаркі і палітыкі. Матыў дружбы з СССР гучыць таксама ў яго паэзіі, поўнасцю аддахай грамадскім справам і простым чалавечым пачуццям. Яго паэтычныя цыклы і зборнікі прасякнуты пафасам міру і працы.*



*Вершы Стшалецкага шырока вядомыя таксама ў СССР. Былі яны перакладзены на рускую, украінскую, грузінскую і ўзбецкую мовы. Тры вершы, прапанаваныя сёння ў перакладзе на беларускую мову, часткова знаёмяць чытачоў «Нівы» з творамі Стшалецкага — паэта-грамадзяніна.*

## ● ЗЯМЛЯ ●

Ты ўся ў збожжы, ў травах, ў канюшынах,
У клімрах межаў з мёдадайным квеццем,
Зямля мая, мая айчына,
Найдаражэйшая на свеце.
Ты не ўцякаеш ад бурлівых громаў
Хаця прыкрылася крыламі дрэваў,
І узнімаеш дом за домам,
І родзіш штодзень спеў за спевам.
А селянін — адданы твой служака,
І твае грудзі, і твой твар ён.
Хай будзе мір, каб не магла ты плакаць,
Хай будзе мір, каб ты жыла ў песні.

*Новыя пераклады*

*Уладзіслаў Стшалецкі*

## НАД ЖЫЦЦЕМ

Галоўны сэнс жыцця я разумею
І месца ў ім сваё шукаю:
Збіраю я здарэнні ў эпапею,
Хлеб і агонь нясу па краю.
Мой бацька жыў у шчырым поце
І вызначыў ён мне дарогу:
Мей рукі чыстыя ў рабоце,
Заўсёды йдзі людзям з падмогай!
І я іду, іду так, як патраплю
Да сэрц людзей, да іх патрэбаў,
Нясу ім капельку за капляй
Матывы песні разам з хлебам.

## ЧАС ЧАЛАВЕЧЫ

Прыносіш ты надзею дому,
і дні святла шматлікім краям,
і у далонь бярэш атомы
з думкай аб добрым ураджаі.
А наша праўда, нібы мора,
шырока свет увесь абмые,
усіх крыўдзіцеляў і гора
Залье магутнаю стыхіяй.
І з праўдай людзі, нібы дрэвы,
Растуць у лагеры вялізным,
яны у працы, і у спеве,
і у будоўлях сацыялізму.
Яна у нашых перамогах,
і у калоссях на палетках,
і ў мірных хатах на парогах,
і ў сне спакойным нашых дзетак.

*Пераклаў Алесь Барскі*

*Кастусь Бандарук*

## ● СНЫ ●

*Сон добры*
*у сне*
*часам відаць залатое збожжа*
*і вялізныя дрэвы*
*што хістаюць небам*
*відаць мальвы*
*сады*
*і чуваць як бзычаць пчолы*
*і спяваюць шумлівыя травы*
*у сне*
*узяць можна*
*месяц у руку*
*і сабраць мёд*
*з сонечнага пластра.*

* * *

*Сны ёсць розныя*
*часам у сне*
*відаць*
*дым які напінае неба*
*як мыльную бурбалку*
*у сне відаць*
*як трашчыць пачарнелае неба*
*і бомбы*
*як мёртвыя ластаўкі*
*часам у сне*
*тлеюць папялішчы дамоў*
*у якіх яшчэ ўчора*
*чалавек гаварыў чалавеку*
*кахаю*
*чуваць*
*як ўміраюць травы*
*і крык дзіцяці*
*загублены ў дыме*
*...мама...*
*часам чуваць*
*мёртвыя кветкі*
*і запах фосфару*
*напалм*
*які выядае вочы*
*і мёртвы вецер*
*што не панясе нямога крыку*
*— НЕ.*

* * *

*Сон добры*
*са сну можна устаць*
*і адчыніўшы акно*
*сказаць*
*што гэта толькі быў сон*
*можна выбегчы*
*на сонечную вуліцу*
*усміхнуцца да людзей*
*ў кіёску купіць папяросы*
*і газеты*
*і можна іх нават*
*прачытаць.*

# НАШ БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

Вось толькі што прачытаў я ад дошкі да дошкі, як кажуць, новы, ужо *пятнаццаты* па чарзе, наш «БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР» на 1971 год. 1971 год для Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы з'яўляецца годам юбілейным, 15-ым годам яго існавання, яго шматграннай дзейнасці.

Справам БГКТ у календары адводзіцца 34 старонкі друку, адзін уступны раздзел *«XV год дзейнасці БГКТ»*, дзе змешчаны артыкул сакратара Галоўнага праўлення БГКТ, тав. Янкі Зенюка — *«За ўдасканаленне дзейнасці»* і падрабязная, каштоўная «Хроніка БГКТ», якую апрацаваў Міхась Хмялеўскі.

Першы сказ гэтай хронікі інфармуе: «1956 год, 2.II. На сходзе беларускага актыву, які адбыўся ў памяшканні таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку, утвораны арганізацыйны камітэт Беларускага грамадска-культурнага таварыства».

Надта ж коратка і суха гэта сказана. Хацелася б чытачу паслухаць шчырыя, непасрэдныя, душэўныя расказы хаця б некаторых удзельнікаў гэтага схода: чым яны кіраваліся, якія мэты вызначалі таварыству, як ацэньваюць здзяйсненне іх. Хацелася б таксама паслухаць пра многае іншае, што беспаваротна прападзе ў попеле часу, калі не знойдзе адлюстравання ў друкаваным слове.

Другі сказ хронікі інфармуе: «1956 год, 26.II. I-шы з'езд БГКТ. Укамплектаваны ў пачатку лютага рэдакцыйны калектыў «Нівы» падрыхтаваў спецыяльны з'ездаўскі нумар часопіса. I зноў хацелася б гэты сухі сказ распісаць на чалавечыя галасы, на ўражанні жывых людзей. I так можна было б гаварыць пра многія іншыя сярод двухсот падзей, апісаных у «Хроніцы БГКТ».

Гэтай шанцы ўкладальнік календара, на жаль, не выкарыстаў. Што тады ён прапануе нам у наступных раздзелах?

Раздзел *«Край мой родны»* адкрываецца агульнавядомым вершам Канстанцыі Буйлы *«Люблю наш край...»* Затым тут: краязнаўчы рэпартаж аб Беласточчыне, цікавае апавяданне Я. Кабаца пра Белавежскую пушчу, вершы I. Лёткі, Я. Пушчы і несмяротная «Беласточчына» Віктара Шведа, расказ пра заблудаўскую друкарню, падборка фальклорных народных твораў, якія «Між Бугам і Нарвай» запісала група студэнтаў беластоцкай філалогіі Варшаўскага універсітэта, далей — змястоўны артыкул Дануты Ясканіс *«Зямля гаворыць аб мінулым»*. Гэты артыкул заслугоўвае на асаблівую ўвагу, бо ён нам расказвае пра нашу старажытную гісторыю. Знаходзім у ім звесткі аб курганах і гарадзішчах у Белавежы, Бельску, Драгічыне, Мельніку, Клюковічах, Ласінцы, Курашаве і ў 30-ці іншых мясцовасцях Беласточчыны.

У асобны раздзел уключаны артыкулы: пра Беларусь у гады Вялікай айчыннай вайны, пра Янку Лучыну, Максіма Багдановіча, Элізу Ажэшка, Я. Карскага і Беларускі універсітэт. У гэтым жа раздзеле змешчаны яшчэ драматычны абразок-казка Ю. Геніюша. Ён прызначаецца школьным драматычным гурткам. Тут таксама М. Гайдук расказвае пра значэнне і паходжанне агульнавядомых папулярных нашых імён. Прачытаўшы гэтую апрацоўку даведваемся адкуль узяліся Лідзія, Ніна, Павел, Васіль, Вера, Мікалай і многія іншыя імёны.

Раздзел *«Гаспадарскія справы»* адрасаваны перш за ўсё да сялян. Ён багата разбудаваны, і нашы гаспадары знойдуць у ім шматлікія сельскагаспадарчыя, праўныя і адміністрацыйныя парады: як падзяліць гаспадарку, як прадаць зямлю, як напісаць заяўку да ўлад, як карыстацца сельскагаспадарчымі машынамі і пра многае іншае. У раздзеле «Сям'я і дом» Ніна Андрэюк расказвае нам, як смачна можна зварыць і як трэба прыстойна весці сябе ў кампаніі.

Да асноўнай кніжкі календара далучаецца надрукаваны асобны календарыум, які можна завесіць на сцяне.

Каляндар старанна апрацаваны графічна. Рэдактар яго не пашкадаваў месца на здымкі. Яны тут амаль на кожнай старонцы. I менавіта здымкі найлепш расказваюць пра БГКТ і пра нашы справы на Беласточчыне.

*В. Рудчык*

*Пачынаем друкаваць матэрыял, які патрабавалі многія нашы чытачы. Будзе гэта па сутнасці гісторыя беларускай літаратуры. Публікацыя разлічана на некалькі год і яе мэта — асвятленне ў папулярнай форме шляхоў развіцця беларускай літаратуры з асаблівым выдзяленнем беларуска-польскіх літаратурных сувязей. Думаем, што скарыстаюць з нашай новай ініцыятывы не толькі вучні, але і шырокія колы чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй роднай літаратуры. Тым больш, што расказа аб ёй дасканалы знаўца прадмета — выкладчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта доктар Аляксандр Баршчэўскі.*




## ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

### УЗНІКНЕННЕ ПІСЬМЕННАСЦІ I ЯЕ ХАРАКТАР

У тэрытарыяльным абсягу Кіеўскай Русі апынуліся таксама плямёны, на глебе якіх у пазнейшы час узнікла беларуская нацыя. Плямёны гэтыя, з увагі на сумежныя пазіцыі, з суседнімі краінамі адыгрывалі істотную гаспадарчую, палітычную і вайсковую ролю. Кіеўская Русь, як усе тагачасныя дзяржавы, звяртала галоўную ўвагу на абарону сваіх граніц або на экспансію ў іншыя краіны. Нягледзячы на гэтую аднабаковасць зацікаўленняў, перадавыя людзі тагачаснай эпохі адводзілі нямала ўвагі справам у культуры. Зацікаўленасць культурнымі справамі выявілася перш за ўсё ў развіцці тагачаснай архітэктуры, царкоўнага жывапісу і літаратуры. Дасягненні Кіеўскай Русі ў гэтай галіне з'ўляюцца спадчынай, уласнасцю беларусаў, украінцаў і рускіх — народаў, якія выраслі з руін Кіеўскай Русі. Кіеўская Русь з'яўляецца для гэтых народаў супольнай праайчынай.

Рашаючую ролю ў развіцці літаратуры перыяду Кіеўскай Русі адыграла прыняццё Уладзімірам Светаслававічам у 988 годзе хрысціянства. Дзякуючы гэтаму, на схіле X ст. поўнасцю канчалася язычаская эпоха. Не значыць гэта, што ўсе плямёны аўтаматычна прынялі новую рэлігію. Яшчэ доўгія гады, нават тады, калі былі ўсюды збудаваны цэрквы і дзейнічалі хрысціянскія святары, людзі патаемна маліліся аб'ектам старога паганскага культу. Гэты аспект адносін у ранні перыяд хрысціянства нас аднак не цікавіць.

Зоймемся толькі літаратурай, якая паявілася ў Русі дзякуючы хрысціянству. Нічога дзіўнага, што літаратура гэта мела перш за ўсё рэлігійны характар. Хрысціянства трактавала пісанае слова як зброю. Імкнулася яно да пашырэння хрысціянскіх ідэй, выкаранення з чалавечай свядомасці язычаскіх прывычак, да ўкаранення ў людзях пераканання, што так, як у небе пануе адзін бог, так у краіне павінен панаваць адзін князь. Гэтая тэндэнцыя, несумненна, узмацняла цэнтралізаваную княжаскую ўладу, але не была ў стане выратаваць яе ў пазнейшы перыяд. Схільнасць правячых дзеячоў да індывідуалізму і самалюбства ўзялі верх над ідэяй агульнарускай справы і альтруізму. Ужо ў канцы XI ст. пачалася ў Русі зацяжная барацьба паміж князямі за княствы, за землі, за гарады, за душы. Давяла яна ў XIII ст. да поўнага развалу дзяржаўнага арганізму.

Як было ўжо сказана, рэлігійныя жанры былі першапачаткова дамінуючымі ў літаратуры Кіеўскай Русі. Дамініруючымі, але не адзінымі. Свецкія праблемы ўсё шырэйшай лавінай уліваліся ў літаратуру і з часам сталіся ў ёй элементам пануючым.

Да асноўных жанраў літаратуры Кіеўскай Русі трэба аднесці наступныя:

прапаведніцкая літаратура,
агіяграфічная літаратура,
апакрыфічная літаратура,
гістарычная літаратура,
воінская літаратура,
паломніцкая літаратура,
палемічная літаратура.

Характарыстыка гэтых жанраў будзе прадметам нашых далейшых разважанняў.

## КІРУЮЧАЯ СІЛА

Міхалоўскі грамадскі камітэт Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў мінулай кадэнцыі збіраўся на сходы 32 разы. Абмяркоўваў праблемы развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі, аналізаваў працу такіх устаноў, як ГРН, ГС, спулдзельчы банк, міжгуртковая машынная база (МБМ); ПГР Геранімова і г.д. Шмат увагі ён прысвяціў справе забеспячэння жыхароў грамады спажывецкімі таварамі першай неабходнасці, якое дагэтуль не было найлепшае.

Аналізуючы працу МБМ, грамадскі камітэт сцвердзіў, што члены праўлення МБМ павінны больш цікавіцца тэхнічным абсталяваннем і сельскагаспадарчымі машынамі, а таксама арганізацыяй працы і якасцю паслуг. КГ цікавіўся справамі кватэрных умоў у Міхалове, а нават прыйшоў з дапамогаю жыллёваму кааператыву. У мінулым годзе пачалася будова першага жылога дома на 36 сем'яў, а ў гадах 1971—75 плануецца пабудаваць яшчэ тры будынкі. Спраўней пачалі ісці рамонты жылых будынкаў. Камітэт патрабаваў, між іншым, пабудаваць новы школьны будынак у Міхалове, гандлёва-паслуговы павільён, прадпрыемства фрукта-агародніцкай апрацоўчай прамысловасці, а таксама разбудаваць кравецкае прадпрыемства.

Іншай галіной працы КГ былі сельскагаспадарчыя справы. У грамадзе дзякуючы намаганням членаў партыі і ўсіх сялян аднаўлена 94 тоны насення жыта і абсеяна ім 600 гектараў зямельных угоддзяў. Плануецца выняніць 850 тон бульбы на такія ж сорты, як «флісак», «уран», «гевонт» і «эпоха». Ужо восенню гэтага года план па абмене бульбы быў выкананы ў 50%.

З кожным годам выкарыстоўваюцца ўсё больш зямельныя ўгоддзі з ПФЗ, якіх тут 950 гектараў. 540 га выкарыстоўваюць паасобныя гаспадары і 58 га — МБМ з Міхалова. У Міхалоўскай грамадзе поўнасцю выконваецца план па кантрактацыі збожжавых культур. План гэты складае 350 га. Найлепш выконваюць яго такія вёскі, як Казімірава, Пянькі, Масціска і Такароўшчына, а з гэтых і іншых вёсак гаспадары: Сцяпан Масайла і Барыс Мядзведзь з Новай Волі, Уладзімір Аксюцік, Ян Ваўрэнюк з Пянькоў і іншыя.

Не найгорш у грамадзе і з запраўкай насення, і з апырскваннем збожжавых культур хімічным рэчывам для ліквідацыі пустазелля.

У 1971 годзе плануецца поўнасцю заправіць зерне яравых культур. Сяляне высяваюць каля 400 тон НПК у чыстым складзе. Найлепш выконваюць планы закупаў мінеральных угнаенняў жыхары з вёсак Геранімава, Майдан, Ляўшы, Кабылянка і Азяблы — усе яны гэтыя планы нават перавыконваюць.

*Янка Цялушэцкі*

Пачатак на стар. 1

## ПРАЦА КАРЫСНАЯ I ЭФЕКТЫЎНАЯ

пы. Колькі трэба ім featureзнага рэпертуару! Але адпаведнага, новага, ідэйнага і высокамастацкага.

— Гэта заклік 15-годдзя з боку ГП.

— Проста трэба ўзяцца за працу, карысную і эфектыўную. Наш напрамак: поўнае выкарыстанне існуючага базісу культурна-асветнай працы, як клубы, святліцы, інструменты, кадры. Ужо час бачыць не толькі колькасць, але і якасць таго, што робіцца. Не сам драмгурток для драмгуртка, але што і як ён робіць. Вастрэй выступіць тут праблема кадраў. Будзе больш працы, бо трэба будзе лепш працаваць.

— Калі б хацець гаварыць пра недахопы, якія назвалі б найперш?

— Нашу арганізацыйную структуру. У будучыні трэба будзе звярнуць увагу на аддзелы і гурткі, формы іх працы і стыль, дастасаваць іх да патрэб асяроддзяў. Аддзелы пакуль не выконваюць ролі каардынатара і інспіратара працы ў гуртках. А гурткі нашы вельмі розныя па свайму складу і характару: іншы ў Варшаве — студэнцкі, іншы ў Гайнаўцы — рабочы, іншы ў Семяноўцы — сялянскі. Кожны з іх будзе выконваць уласцівую сабе працу.

— Не малыя чакаюць нас заданні. Але ж маем Новы Год...

— Ад імя ГП хачу падзякаваць вялікай арміі актыву БГКТ за супрацоўніцтва і дапамогу: настаўнікам, маладзёжным дзеячам, сялянскім і рабочым актывістам, партыйным і адміністрацыйным уладам. Усім членам і сімпатыкам таварыства. Шчырае дзякуй! З Новым Годам! Многа шчасця, здароўя, задавальнення з грамадскай працы, поспехаў у прафесіянальнай працы!

*Інтэрв'ю вяла Вера Леўчук*

## „НІВЫ" НАЙБОЛЬШ

*Жыхары грамады Старое Ляўкова (Гайнаўскі павет) выпісваюць 418 экземпляраў розных часопісаў і газет. Найбольш папулярным з'яўляецца наш беларускі тыднёвік — «Ніва» — 97 экземпляраў, затым «Газета Беластоцкая» — 96 экз., «Грамада Рольнік Польскі» — 62 экз., «Хлопска Дарога» — 30 экз. і «Аграхімія» — 16 экз.*

*(яц)*




## АБ ВЯСКОВЫМ СУЖЫЦЦІ

Навуковае выдавецтва Асалінскіх апублікавала нядаўна кніжку Дануты Маркоўскай пад загалоўкам «Rodzina wiejska na Podlasiu 1864—1964». Аўтар кніжкі ставіць сабе заданне: прасачыць развіццё сямейна-суседскіх сувязей у вёсках, мешаных паводле веравызнання (каталікі і праваслаўныя) і станавай прыналежнасці (сяляне і шляхта). Маркоўская правяла падрабязныя сацыялагічна-этнаграфічныя доследы ў чатырох вёсках, канцэнтруючы асаблівую сваю ўвагу на двух мясцовасцях: Шчагляціне ў Варшаўскім ваяводстве і Замкавай Вульцы ў павеце Сямяцічы. Шчагляцін з'яўляецца вёскай выключна каталіцкай, Замкавая Вулька — мешанай, праваслаўна-каталіцкай.

Данута Маркоўская прасачыла на гэтым матэрыяле развіццё сямейна-суседскага сужыцця ў трох гістарычных адрэзках часу: у гадах 1864—1919, 1920—1944 і 1945—1964.

Да 1919 года ў Замкавай Вульцы былі амаль выключна сем'і аднае веры. На 100 даследаваных сямей толькі ў 5 выпадках муж быў іншага веравызнання, чымсьці жонка. Веравызнаўча мешаныя сямейства былі рэдкасцю, маладыя ў пошуках партнёраў выязджалі ў суседнія, нават далёкія вёскі. У сувязі з тым сваяцкія кантакты былі пашыраны на ўсю ваколіцу, і вёска была больш «адкрытай» знешняму свету, чымсьці вёскі веравызнаўча аднародныя.

Маркоўская сцвярджае, што веравызнаўчыя адрозненні не стварылі бар'еру для гаспадарчага супрацоўніцтва і прыводзіць на гэта шэраг прыкладаў. Параўноўваючы адрозненні шляхціц - селянін з адрозненнямі католік-праваслаўны, аўтар сцвярджае, што саслоўны бар'ер ствараў заўсёды значна большую перашкоду ў суседскіх адносінах, чымсьці бар'ер веравызнаўчы.

Аналізуючы сужыццё паміж абедзвюма веравызнаўчымі групамі вёскі, Маркоўская сцвярджае падабенства, а нават абсалютнае супадзенне абрадавасці гэтых груп, што аблягчала ім сужыццё ў рамках адной і той самай народнай культуры. У вёсцы заўсёды быў звычай устрымлівання больш відавочных гаспадарскіх работ падчас святкаванняў іншаверцаў. Выконваліся тады толькі дробныя гаспадарчыя работы. Падчас featureзнага роду свят запрашалі на пачастункі суседзяў іншага веравызнання.

Міжваенны перыяд, а асабліва перыяд пасляваенны ў жыцці жыхароў Замкавай Вулькі з'яўляецца перыядам згладжвання розніц паміж абедзвюма веравызнаўчымі групамі. У міжваенны перыяд аж 35,3 працэнта сем'яў было веравызнаўча мешанымі. У пасляваенны перыяд ёсць іх у даследаванай вёсцы ўжо 41,2 працэнта. Вялікую колькасць веравызнаўча мешаных сямействаў у веравызнаўча мешаных вёсках аўтар лічыць вельмі істотнай з'явай, якая мела асабліва вялікі ўплыў на фарміраванне талерантнасці жыхароў гэтых вёсак. У кніжцы знаходзім шмат доказаў на тое, што жыхары веравызнаўча мешанай вёскі значна больш прагрэсіўных поглядаў і звычаяў, значна больш цярплівыя да жыхароў іншага веравызнання, чымсьці жыхары вёсак з адным веравызнаннем.

Цікавыя таксама параўнанні поглядаў на розныя справы жыхароў Замкавай Вулькі каталіцкага і праваслаўнага веравызнання. Вынікае з іх, што

50.

— Я не буду шкадаваць, калі не дачакаемся. А калі спатрэбяцца, мы самі будзем рады, што зрабілі. Рыбы на сёння хопіць, пойдзем пашукаем да яе яшчэ чаго-небудзь.

Як звычайна, накіраваліся ў лес. Праз некаторы час знайшлі некалькі маладзенькіх грыбоў.

— Бач, якія прыгожыя сыраежкі! — усцешыўся Віктар, сарваў і адразу з'еў корань.

— Смачныя, салодкія! — цмокнуў ён. — Нездарма іх завуць сыраежкамі.

А яшчэ праз некалькі крокаў натрапілі на лісічкі.

— Цёплае надвор'е, пачынаюць грыбы лезці, — задаволена казаў Мірон. — Будзем мець падмацаванне замест цецерукоў.

Перасеклі лес наўскасяк і выйшлі да таго месца, дзе яны ў першы дзень бачылі клін, што вытыркаўся ў возера. Цяпер з гэтага боку ўжо возера не было.

— Суха ўжо! — крыкнуў Віктар і пабег наперад. Пабег за ім і Мірон. Але хутка пераканаліся, што да сухога месца яшчэ далёка. Тут была дрыгва, у якую і думаць нельга было совацца.

— А ўсё ж такі цяпер можна ўжо спадзявацца знайсці выхад, — суцяшалі сябе хлопцы. — Заўтра пойдзем шукаць.

Тут Мірон звярнуў увагу на малады аер у балоце.

— А вось і яшчэ страва! — сказаў ён, вырваў расліну, вылушчыў белы канец кораня і пачаў есці.

— Праўда! Ведаю. Не раз еў! — крыкнуў Віктар і далучыўся да Мірона.

— Здаецца, і сёе, і тое з'ясі, — разважалі хлопцы, калі ішлі назад, — а ўвесь час адчуваеш голад, усё чагосьці не хапае.

Падвечар пачаўся дождж, вялікі, доўгі. Увесь час прыйшлося сядзець у будцы. Хоць і старанна яна была пабудавана і дагледжана, але ўсё роўна працякала.

— Абавязкова спалю яе, калі будзем адыходзіць дадому — злаваў Віктар.

Зноў зрабілася нудна і сумна. Зноў нямілым стала ўсё навокал. Адна толькі ўцеха была: заўтра яны канчаткова выберуцца з гэтага дзікага кута, бо вада ўжо спала.

XII

**Зноў няўдалая спроба. — Неспадзяваная сустрэча. — Вожык дапамог. — Апошняя рыба. — Новая спроба. — Нядоўгая радасць. — У пастцы. — Апошнія патугі. — Побач са смерцю.**

Спалі дрэнна. Увесь час пільнавалі агонь, грэліся, сушыліся. Дождж перастаў на світанні, і хлопцы зараз жа пачалі рыхтавацца ў дарогу.

52.

— Што... такое? — задыхаўшыся, спытаўся Мірон.

— Мядзведзь! — коратка адказаў Віктар.

Але як яны абодва ні прыглядаліся, нікога не было відаць.

— А можа, табе толькі здалося? — насмешліва сказаў Мірон.

— Добра здалося, калі я сам стукнуў яго па галаве! — адказаў Віктар сур'ёзна. Потым, прыгінаючыся, пачаў красціся наперад. Рушыў за ім і Мірон. Крокаў пяцьдзесят пасунуліся яны і нічога не заўважылі. Тады толькі Віктар супакоіўся.

— Я быў упэўнены, што мядзведзь за намі гоніцца, — прамовіў ён з палёгкай.

— Ды скажы ты толкам, у чым справа? — нецярпліва запытаў Мірон.

А вось, калі я заскочыў за куст, дык трапіў акурат у лапы да мядзведзя. Сажалка высахла, засталося толькі балота, а ў ім бялела шмат рыбы. Вось мядзведзь і капашыўся там, падбіраў нашую рыбку. Мусіць, таму ён і не пачуў нас, што быў заняты гэтай справай. Я з разгону так і наляцеў на яго. Ён мігам выпрастаўся, стаў на заднія лапы і павярнуўся да мяне. У бяспамяцці я стукнуў сваёй булавой яму па мордзе. Ён зароў і ўхапіўся лапамі за вочы. Відаць, я трапіў яму ў вока. Булава вывалілася з рук і я паляцеў назад. Вось і ўсё.

— Во як? — сказаў Мірон. — Дык гэта не жарты?

— Добрыя жарты, — трапіць мядзведзю ў лапы з адным толькі кіем.

— А ведаеш што? — засмяяўся Мірон. — Гэта ж вожык нас выратаваў. Калючкі папсавалі мядзведзю вока, вось яму і не было як гнацца за намі. А простым кіем ты не мог бы выбіць яму вока.

— Я ж табе казаў: падавай на маю булаву ўсіх звяроў, нават сланоў і кракадзілаў! — сказаў Віктар і ўзяўся ў бокі.

— Ой, не хваліся, герой! — паківаў яму пальцам Мірон. — Прыпомні, як ты, збялелы, бяззбройны, ляцеў ад яго.

— А ты нават і не ведаў чаго, але таксама ляцеў! — І абодва героі весела засмяяліся.

Праз паўгадзіны пайшлі назад. Чым болей набліжаліся да сажалкі, тым болей напружваліся. Чатыры вокі пільна ўглядаліся ў кусты, чатыры вухі не прапускалі аніводнага гуку. Кожны момант хлопцы гатовы былі драпануць назад.

Такім чынам падкраліся да самага берага і ўбачылі балотца з невялікімі лужынкамі, здохлую, паўжывую і жывую рыбу, сляды мядзведзя, а побач булаву. Ніякіх адзнак, што быў бліжэй і сам мядзведзь, не было.

Калі падышлі бліжэй ды паднялі дубіну, то заўважылі на ёй сляды зубоў.

— Відаць, ад злосці кінуўся на дубіну, — заўважыў Віктар. — Калі за намі не пагнаўся, дык пэўна застаўся без вока.

— Дармо! Ён сам цяпер будзе баяцца нас. Наконт гэтага можна быць спакойным. Наогул мядзведзь сам не нападае на чалавека, а на двух — тым болей.



*Звёзды з Рыбалаў і шопкі Аляксандра Бялка з Гайнаўкі.*
*Фота: Віктар Волкаў*

## Наш Каляндар

# ВАЖНЕЙШЫЯ ГАДАВІНЫ У 1971 ГОДЗЕ

(У ДУЖКАХ: КОЛЬКІ МІНУЛА ГОД)

30.I.1921 нар. беларускі пісьменнік І. Шамякін (50)
8.II.1921 нар. беларускі пісьменнік І. Мележ (50)
25.II.1946 пам. беларускі паэт Алесь Дудар (25)
26.II.1956 адбыўся I з'езд БГКТ (15)
4.III.1956 выйшаў першы нумар «Нівы» (15)
5.III.1896 нар. беларускі пісьменнік К. Крапіва (75)
18.III.1871 узнікла Парыжская камуна (100)
22.III.1911 нар. беларускі паэт. А. Зарыцкі (60)
12.IV.1961 I касмічны палёт чалавека — Ю. Гагарына (10)
23.IV.1911 нар. Старшыня Савета Дзяржавы Ю. Цыранкевіч (60)
30.IV.1881 нар. беларускі паэт Янка Журба (90)
4.V.1846 нар. польскі пісьменнік Г. Сянкевіч (125)
16.V.1911 нар. беларускі пісьменнік В. Вітка (60)
23.V.1871 загінуў генерал Я. Дамброўскі (100)
6.VI.1841 нар. польская пісьменніца Э. Ажэшка (130)
13.VI.1811 нар. рускі крытык В. Бялінскі (160)
21.VI.1941 гітлераўская Германія напала на СССР (30)
6.VII.1851 нар. беларускі паэт Янка Лучына (120)
24.VII.1911 нар. беларускі паэт А. Астрэйка (60)
13.VIII.1956 пам. беларускі пісьменнік Якуб Колас (15)
25.IX.1821 нар. польскі паэт Цыпрыян Норвід (150)
30.IX.1946 прысуд ваенным злачынцам у Нюрнберзе (25)
21.X.1921 нар. беларускі паэт І. Муравейка (50)
30.X.1921 заснаваны Бел. дзярж. універсітэт (50)
3.XI.1941 пам. беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля (30)
9.XII.1891 нар. беларускі паэт Максім Багдановіч (80)
10.XII.1821 нар. рускі паэт Мікалай Някрасаў (150)
15.XII.1921 нар. беларускі крытык С. Александровіч (50)

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПІРОГ З МАКАМ

Мінуў беспаваротна час, калі свята было адзінай аказіяй, каб наесціся нарэшце дасыта, каб скаштаваць стравы, аб якіх чалавек мог цэлы год толькі марыць. Добра гэта ведаюць сяляне нашых вёсак. Сёння на сялянскім штодзённым стале — не навіною шынкі і кілбасы, булкі і пячэнне. Каб толькі гаспадыня добра ўвіхалася, дык яды не забракне.

Калі хто спадзяецца гасцей, дык у святы выпадае прыняць іх традыцыйнымі патравамі. Калі ж хто прызначыў усе тры дні на адпачынак у хатняй цішы ці на прагулцы, дык, праўду кажучы, няма сэнсу выкідаць грошы. У святы ж мы найчасцей пераядаемся, пасля хварэем, акрамя таго, зазвычай застаецца шмат рэштак ад розных патраў, якія не кожная гаспадыня патрапіць выкарыстаць.

Таму нам здаецца, што дасканала можна правесці святы, падрыхтаваўшы нешта з мяса, зрабіўшы смачную рыбку, які-небудзь салат з гародніны, добры кампот з сухіх фруктаў ну, і, скажам, адзін які-небудзь пірог.

Дык вось, для тых, хто святкуе праваслаўныя святы (а імі з'яўляецца большасць нашых чытачоў), паспеем мы сёння яшчэ перадаць рэцэпт на пірог з макам.

На 4—5 невялікіх макоўцаў патрэбна нам: на цеста — 1 кг мукі, 6 сырых яечак, 8 дэкаў (80 г) дражджэй, 1 шклянка цукру, пачка масла ці маргарыну (або напалавіну), крыху цёплага малака, сцертая лімонная скурка, на макавую масу трэба — 1 кг маку, 1 кг цукру, крыху разынак, можна дадаць арэхаў і смажанай апельсінавай скуркі.

Мак у папярэдні дзень залліваем у каменным чыгуне кіпятком, так, каб вада была на 5 см вышэй маку. Назаўтра асушваем мак на сіце і мелем яго ў мясарубцы 2—3 разы.

Муку прасеяць, дадаць дрожджы (разведзеныя ў цёплым малацэ з лыжкай мукі і цукру, крыху падросшыя), пасля ўзбітыя з цукрам яечкі, мясіць цеста, дадаючы столькі малака, каб цеста было крыху гусцейшае, чым на звычайны дражджовы пірог. Пасля дадаем разагрэты тлушч і лімонную скурку, месім далей, да таго часу, пакуль цеста не стане адставаць ад рук і міскі. Цеста прыкрываем чыстай сціркай і ставім у цёплае месца, каб падрасло.

Цяпер робім макавую масу: цукар усыпаем у каструлю, даліваем паўтары шклянкі гарачай вады, кіпяцім сіроп да таго часу, пакуль кропля, спушчаная з лыжкі, не будзе цягнуцца «нітачкай». У кіпячы сіроп дадаем змелены мак; адразу знімаем з агню, мяшаючы. Усыпаем дадаткі (рубленыя арэхі, апельсінную скурку, разынкі).

Падросшае цеста дзелім на некалькі частак, раскатваем яго на не вельмі тонкія квадраты, змазваем бялком, а пасля макавай масай, заварочваем цеста рулетам, кладзем у прадаўгаватыя формачкі, змазаныя тлушчам, і пакідаем у цёплым месцы, каб падраслі, а пасля ставім у не надта гарачую духоўку і пячэм каля гадзіны.

Вясёлых свят!

*Гаспадыня*

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

У час пленарнага пасяджэння 1 снежня ўдзельнікі канферэнцыі яшчэ раз вярнуліся да пытання аб Германіі. Рузвельт сказаў, што ёсць прапанова аб падзелу Германіі і што гэта пытанне трэба абмеркаваць больш падрабязна.

Следам за амерыканскім прэзідэнтам слова ўзяў Чэрчыль, які, відаць, ужо быў падрыхтаваны да такой пастаноўкі пытання. Ён энергічна падтрымаў Рузвельта.

— Я за падзел Германіі. Але я хацеў бы абдумаць пытанне адносна падзелу Прусіі. Я таксама за аддзяленне Баварыі і іншых правінцый ад Германіі.

Прапанова Чэрчыля прагучала крыху нечакана, і ў зале ўсталявалася маўчанне. Зноў загаварыў Рузвельт.

— Каб стымуляваць нашу дыскусію, — заявіў ён, — я хацеў бы выкласці складзены мною асабіста два месяцы назад план падзелу Германіі на пяць дзяржаў.

— Я хацеў бы падкрэсліць, — перапыніў Чэрчыль, — што корань зла Германіі — Прусія.

Рузвельт адабральна кіўнуў галавой і працягваў:

— Пажадана, каб мы спачатку мелі перад сабой малюнак у цэлым, а потым ужо гаварылі аб асобных кампанентах. На маю думку, Прусія павінна быць па магчымасці аслаблена і зменшана ў сваіх памерах. Яна павінна складаць першую самастойную частку Германіі. У другую самастойную частку павінны быць уключаны Гановер і паўночна-заходнія раёны Германіі. Трэцяя частка — Саксонія і раён Лейпцыга. Чацвёртая частка — Гесенская правінцыя, Дармштат, Касель і раёны, размешчаныя на поўдзень ад Рэйна, а таксама старыя гарады Вестфаліі. Пятая частка — Баварыя, Бадэн і Вюртэмберг. Кожная з гэтых пяці частак будзе з'яўляцца незалежнай дзяржавай. Акрамя таго, з саставу Германіі павінны быць выдзелены раёны Кільскага канала і Гамбурга. Гэтымі раёнамі павінны будуць кіраваць Аб'яднаныя Нацыі або чатыры дзяржавы. Рурская і Саарская вобласці павінны быць пастаўлены пад кантроль Аб'яднаных Нацый або апекуноў усёй Еўропы. Вось мая прапанова. Я павінен папярэдзіць, што яна з'яўляецца толькі арыенціровачнай...

У абстаноўцы тых дзён, калі яшчэ амаль уся Еўропа знаходзілася пад фашысцкай пятой, прапанова Рузвельта аб падзеле Германіі гучала неяк нерэальна. Да таго ж адразу ўзнікла сумненне — ці можна ў сярэдзіне XX стагоддзя прымусіць нямецкі народ прымірыцца з адраджэннем карлікавых

# ТРЫБУНА чытачоў

## МЕНШ ЛЮДЗЕЙ

У вёсцы Тарнопаль, што на Гайнаўшчыне, налічваецца 69 гаспадароў, якія пабудавалі будынкі на сваіх хутарах. Як традыцыйная вёска Тарнопаль не існуе. Будынкі паасобных гаспадароў знаходзяцца адзін ад другога прыкладна ў 400—500 метрах. Зараз кожны гаспадар заняты сваёй работай, бо і на панадворку трэба навесці парадак, і жывёлу трэба накарміць, і дроў накалоць, і г.д.

А калі закончыцца кароткі снежаньскі дзень, ідуць сяляне адзін да другога на вечарынкі, каб пагаварыць аб навінах дня ў краіне і на свеце.

Яшчэ да Тарнопаля не даведзена электрычнае святло, таму няма тут тэлевізара. Калі каму захочацца пабыць на перадачах тэлебачання, трэба ісці больш двух кіламетраў у суседнюю Луку ў клуб.

Раней было весялей у нашай вёсцы. Шырока разгортвалі сваю культурна-асветную дзейнасць гурткі Саюза вясковай моладзі, Лігі абароны краіны, гурток вясковых гаспадынь і гурток Беларускага таварыства. Але дзейнасць гурткоў не можа развівацца, таму што з вёскі адыйшло многа моладзі на работу і вучобу ў Беласток і Гайнаўку. Адчуваецца яшчэ толькі праца гуртка Лігі абароны краіны.

*Янка Бура*
*Тарнопаль*

## БЕЛЬСКАЕ ПКО

Польская ашчадная каса ў гэтым годзе адзначала важную падзею. Сума грошай на ашчадных кніжках перавысіла суму 100 мільярдаў зл. На Беласточчыне найлепшых вынікаў дасягнула ПКО ў Бельску Падляшскім. На ашчадных кніжках жыхары Бельскага павета маюць вялікія сумы, так што на статыстычнага жыхара Бельшчыны прыпадае 2200 зл. Бельскае ПКО налічвае 63 тысячы розных ашчадных кніжак. Калі прыняць пад увагу тое, што павет мае 70 тысяч жыхароў, дык колькасць ашчадных кніжак даволі вялікая. За атрыманне першага месца ў ваяводстве па выкананню планаў ПКО дырэктар Бельскага аддзела ПКО Мікалай Серадзінскі ўзнагароджаны Сярэбраным Крыжам Заслугі. Узнагароду атрымаў ён з рук міністра фінансаў Юзэфа Трандоты ў Варшаве на спецыяльнай урачыстасці. (мх)

## ЗАКОНЧАНА КАМАСАЦЫЯ

У вёсцы Тапаркі (Гайнаўскі павет) нядаўна закончылася камасацыя зямлі. Назаўсёды ліквідавана ў гэтай вёсцы цераспалосіца, якая перашкаджала ва ўздыме сельскагаспадарчай вытворчасці. Жыхары вёскі вельмі задаволены, што зямля іх будзе ў адным або толькі ў некалькіх кусках.

*Мікалай Панфілюк,*
*Дубічы Царкоўныя*

## ФРАНЦУЗСКАЯ МУЗЫКА

Так як і іншыя ліцэі, Бельскі беларускі ліцэй таксама наведваюць артысты Варшаўскай філармоніі. Яны знаёмяць нас з музыкай не толькі польскіх кампазітараў, але і з музыкай зарубежных краін. 9 снежня прэзентавалася французская музыка. Артысты выконвалі песні і ігралі на многіх інструментах.

*Вера Ахрымюк,*
*Бельскі беларускі ліцэй*

## КАЛЕКТЫЎНАЯ ГАСПАДАРКА

Спулдзельня прадукцыйная ў Зубрах (Беластоцкі павет) існуе ад 1952 года. Яе кіраўніцтва многа ўвагі ўдзяляе развіццю жывёлагадоўлі. Зараз ёсць тут 85 штук спулдзельчых кароў. Згодна з планам, у наступных гадах кароў будзе значна больш. Ужо цяпер будуецца там кароўнік на 120 штук. Вялікія даходы мае спулдзельня з гадоўлі курэй. Для яе выкарыстаны паспулдзельчыя будынкі ў Мялешках і Новай Волі. У трох свайго роду фермах (бо і ў Зубрах) гадуецца кожны год каля 130 тысяч штук курэй-брайлераў.

*Р. Ліс,*
*Беластоцкі павет*

## ШКОЛЬНЫЯ СПРАВЫ

У васьмікласнай пачатковай школе ў Зубрах (Беластоцкі павет) вучыцца зараз 77 дзяцей. Школа гэта славіцца грамадскімі чынамі. Успомнім некаторыя. Пры пасадцы лесу заняла яна другое месца ў ваяводстве. Заўсёды школа шмат дапамагае мясцовай спулдзельні прадукцыйнай пры капанні бульбы. У «Алімпіядзе ашчадных» школа таксама атрымала добрыя вынікі.

Гэта добрыя бакі школы. Але ёсць тут і справы дрэнныя. Праўда, гэта не датычыць настаўнікаў і дзяцей. Школьнікаў і выхавацеляў хвалюе справа рамонту памяшкання. Рамонт школы пачаўся год таму назад прыватнай фірмай і праводзіцца па-партацку. Новыя тынкі абвальваюцца, і трэба іх рабіць нанава. Дах таксама адрамантаваны дрэнна. Ужо ёсць вялікія зацекі.

*Рыгор Лісавец*
*Скраблякі*

## НЕ ВЫДАЕ РЭШТЫ

У некаторых мясцовасцях няма білетных кас. Білеты прадае кандуктар у вагоне цягніка. А вось на трасе Чарэмха—Беласток у ранніх гадзінах курсуе цягнік, кандуктар якога за білеты не выдае рэшты пасажырам, дык ён абяцае, што прыдзе і выдасць. Але, на жаль, не прыходзіць і так схаваецца, што цяжка яго знайсці. І такім чынам несумненны кандуктар «надувае» людзей.

*П. Дубовіч,*
*Гайнаўскі павет*

## У ПРАДШКОЛЬНІКАЎ

Ад пачатку лістапада м.г. праводзяцца заняткі ў прадшкольным агніску пры клубе «Руху» і Старым Ляўкове, Гайнаўскага павета. Заняткі адбываюцца два разы ў тыдзень: у аўторак у гадз. 9—12 і ў суботу ў гадз. 12.30—15.30. Прыходзіць на іх 18 дзяцей з Новага і Старога Ляўкова. Агніска працуе пад кіраўніцтвам настаўніцы мясцовай школы Ірэны Данілецкай. Настаўніца вучыць дзяцей співаць, рысаваць і танцаваць. Прадшкольнікі любяць слухаць або глядзець казкі з каляровых дыяфільмаў, а таксама прымаюць удзел у розных конкурсах.

Дзеці маюць тут розныя цацкі, лялькі, коней, самаходзікі і г.д. На навагоднюю ёлку развучваюць яны новыя вершы, песні, скетчы і інсцэніроўкі.

(ЯЦ)

## ЖАНЧЫНЫ — ДЗЕЯЧЫ

Многія жанчыны на Гайнаўшчыне не толькі добра працуюць прафесіянальна, але таксама і ў грамадскай працы праяўляюць высокую актыўнасць і адказнасць.



*Вера Леўчук* паходзіць з Новага Ляўкова. Закончыўшы беларускі ліцэй у Гайнаўцы і двухгадовы завочны бібліятэкарскі курс, пачала працаваць спачатку ў семяноўскай бібліятэцы, затым у Дубічах Царкоўных, а пасля ў Нарве. На гэтай пасадзе працуе ўжо ад 1963 года. З'яўляецца яна добрым прапагандыстам кніжкі (у тым ліку і беларускай), добрым арганізатарам культурнага жыцця і добрым партыйным дзеячом, які займаецца маладзёжнымі справамі. Вера Леўчук мае шмат грамадскіх функцый і ўсе іх належна выконвае. І так, з'яўляецца яна членам пленума павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы, членам прэзідыума павятовага праўлення Саюза вясковай моладзі, сакратаром праўлення ЗМВ у грамадзе Нарва, а таксама сакратаром мясцовага гуртка БГКТ.



— *Аляксандра Назарук* — солтыс у Вульцы Тэрахоўскай. Ужо пяць разоў па чарзе аднавяскоўцы выбіраюць яе на гэтую пасаду. Па яе ініцыятыве жыхары вёскі грамадскім чынам наладзілі дарогу, спалучаючую Вульку Тэрахоўскую з Чарэмхай. Дарогу гэту абсадзілі таксама тапалямі. Паколькі Аляксандра Назарук клапоціцца аб усіх справах сваёй вёскі і добра ведае ўсе хвалюючыя праблемы, мясцовая грамадскасць выбрала яе раднай ГРН, а радныя выбралі яе членам прэзідыума.

Жанчына гэта зараз хоча стварыць у вёсцы клуб.



*Ліда Шатыловіч* — кіраўнік клуба «Рух» у Чарэмсе. Праяўляе яна вялікую актыўнасць у працы мясцовых гурткоў ЗМВ і БГКТ.

*Віктар Бура*
*Гайнаўка*

## НОВЫЯ СОЛТЫСЫ

У лістападзе ў некаторых вёсках Сакольскага павета адбываліся выбары солтысаў. У многіх выпадках засталіся выконваць гэтую ганаровую функцыю дагэтуляшнія солтысы. Але ў некаторых вёсках былі выбраны новыя. І так, у Паўднёвым Востраве ў выніку тайнага галасавання быў выбраны малады чалавек (кавалер яшчэ) Мікалай Жамойда, у Шацілах — Станіслаў Глябовіч, у Свідзілаўцы — Мар'ян Антановіч, у Казловым Лузе — Генрык Казлоўскі, а ў Паўночным Востраве — Іван Байгус.

Іван Байгус як нававыбраны солтыс адразу заняўся арганізаваннем святліцы ў сваёй вёсцы. Дзякуючы яму жыхары Паўночнага Вострава купілі хату і перабудоўваюць яе на святліцу. (хх)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Hasło bez odzewu" (bułg.), 5—6. „Nie smuć się" (radz.), 7—8. „Znaki na drodze" (polski), 9—10.

**НАРАЎКА**

„Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), „Ostatni świadek" (polski), 6—10.

**НАРВА**

„Dzień oczyszczenia" (polski), „Królewski błąd" (czeski), 6—10.

**ЧЫЖЫ**

„Ostatni watażka" (bułg.), „Profesor zbrodni" (węgierski), 6—10.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Ruchome piaski" (polski), „Jezioro starej sowy" (NRD), 6—10.

**ОРЛЯ**

„Sąsiedzi" (polski), „Zwiadowca" (radz.), 6—10.

**РАЙСК**

„Most" (jugosł.), „Na miłość nigdy nie jest za późno" (węg.), 6—10

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Stopień ryzyka" (radz.), 5—6. „Doczekać zmroku" (USA), 7—8. „Dziura w niebie" (polski), 9—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Szlacheckie gniazdo" (radz.), 4—6. „Los Golfos" (hiszpański), 7—8. „Wielka miłość" (franc.), 9—10.

**ЯНАЎ**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), 6—10.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Daleko od słońca" (jugosł.), 5—6. „Pamiętnik pani doktór" (franc.), 7—8.

**МЕЛЬНІК**

„Testament gangstera" (francuski), 5—6. „Marysia i Napoleon" (polski), 7—8. „Ostatni termin" (USA), 9—10.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Słoń Maruda" (ang.), 5—6. „Okna czasu" (węgierski), 7—8. „Dżamila" (radz.), 9—10.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Dwaj panowie bez parasola" (radz.), 6—10.

**НОВЫ ДВОР**

„Śmierć Indianina" (rum.), „Szczęśliwy Aleksander" (francuski), 9—10.

---

дзяржаў часоў курфёрстваў? Ці не занадта смела вырашыў перакроіць карту Германіі амерыканскі прэзідэнт?

Але Чэрчыль, гэты вопытны і хітры палітык, як быццам падтрымліваў ідэю Рузвельта.

— Вы выклалі многа ўсякай усячыны, — сказаў ён, — звяртаючыся да прэзідэнта. — Я лічу, што існуюць два пытанні: адно — разбуральнае, а другое — кансерватыўнае. У мяне дзве ідэі: першая — гэта ізаляцыя Прусіі ад астатняй Германіі, другая — гэта аддзяленне паўднёвых правінцый Германіі — Баварыі, Вюртэмберга, Палаціната (Пфальца. — В. Б.) — ад Саара да Саксоніі ўключна. Я трымаў бы Прусію ў жорсткіх умовах. Я лічу, што паўднёвыя правінцыі лёгка адарваць ад Прусіі і ўключыць у Дунайскую федэрацыю. Людзі, што жывуць у Дунайскім басейне, не з'яўляюцца прычынай вайны. Ва ўсякім разе, з прусакамі я абышоўся б больш сурова, чым з астатнімі немцамі. Паўднёвыя немцы не пачнуць новай вайны...

Гэтыя разважанні Чэрчыля ўнесілі новы элемент у пытанне аб пасляваенным лёсе Германіі. Выступаючы за падзел Германіі і падаўленне Прусіі, ён у той жа час хіліў справу да нейкага новага фарміравання, накшталт шматвяковай габсбургскай манархіі. Іменна так можна было зразумець сэнс яго прапановы наконт Дунайскай федэрацыі. Само сабой зразумела, што на думку брытанскага прэм'ер-міністра, такая федэрацыя павінна была знаходзіцца пад кантролем заходніх дзяржаў і ізаляваць Заходнюю Еўропу ад Савецкага Саюза. Гэты план яўна пераклікаўся з ідэяй Чэрчыля аб высадцы англа-амерыканскіх войск на Балканах з мэтай «апярэдзіць» рускіх у Паўднёва-Усходняй Еўропе.

Сталін вельмі адмоўна ўспрыняў гэты план.

— Мне не падабаецца план новых аб'яднанняў дзяржаў, — сказаў ён ледзяным тонам. — Калі будзе вырашана падзяліць Германію, то не трэба ствараць новых аб'яднанняў. Калі гэта будзе пяць або шэсць дзяржаў і два раёны, як прапануе Рузвельт, — гэты план можа быць разгледжаны. Што ж датычыць прапаноў англійскага боку, то трэба мець на ўвазе наступнае. Чэрчылю неўзабаве прыйдзецца мець справу з вялікімі масамі немцаў, як прыходзіцца цяпер нам. Ён убачыць тады, што ў германскай арміі ваююць не толькі прусакі, але і немцы з астатніх правінцый Германіі. Толькі аўстрыйцы, здаючыся ў палон, крычаць: «Я аўстрыец!» — і нашы салдаты іх прымаюць. Што ж датычыць немцаў з асобных правінцый Германіі, то яны ваююць з аднолькавай жорсткасцю. Як бы мы ні падыходзілі да пытання аб падзеле Германіі, не трэба ствараць нейкага новага нежыццяздольнага аб'яднання дунайскіх дзяржаў. Венгрыя і Аўстрыя павінны існаваць асобна адна ад адной. Аўстрыя існавала як самастойная дзяржава да таго часу, пакуль яна не была захоплена Гітлерам.

Рузвельт згадзіўся са Сталіным у тым, што паміж немцамі, якія нарадзіліся ў розных германскіх правінцыях, не існуе розніцы. Пяцьдзесят гадоў назад гэта розніца існавала, сказаў прэзідэнт, але цяпер усе нямецкія салдаты аднолькавыя.

Пасля гэтага зноў выступіў Чэрчыль.

— Я не хачу, каб мяне зразумелі так, быццам я не за падзел Германіі, — заявіў ён. — Але я хацеў бы сказаць, што, калі раздрабіць Германію на некалькі частак і не стварыць камбінацыі з гэтых частак, тады, як гэта гаварыў маршал Сталін, прыйдзе час, калі немцы аб'яднаюцца.

— Няма ніякіх мер, якія маглі б выключыць магчымасць аб'яднання Германіі, — запярэчыў кіраўнік савецкай дэлегацыі.

— Маршал Сталін аддае перавагу раздробленай Еўропе? — з'едліва спытаў Чэрчыль.

— Пры чым тут Еўропа? — адпарыраваў Сталін. — Я не ведаю, ці трэба ствараць чатыры, пяць або шэсць самастойных германскіх дзяржаў. Гэта пытанне трэба абмеркаваць.

Рузвельт спытаў, ці не варта стварыць для вывучэння пытання аб Германіі спецыяльную камісію, або, магчыма, перадаць гэта пытанне ў Лонданскую камісію прадстаўнікоў трох дзяржаў. Сталін згадзіўся перадаць пытанне ў Лонданскую камісію. *(Працяг будзе)*

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem: Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7239 W-4

